*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 24(358)** **24 ЧЭРВЕНЯ 1998 г.**

19 чэрвеня
вялікаму сыну беларускага народа, народнаму пісьменніку Беларусі

## Васілю Быкаву

споўнілася 74 гады



Рэдакцыя газеты "Наша слова" віншуе Васіля Уладзіміравіча з чарговай гадавінай і жадае перажыць і гэтую паласу ліхалецця ды дачакацца здзяйснення сваіх мараў пра вольную і незалежную Беларусь.

## Ахвяраванні на ТБМ

| | |
|---|---|
| Галіна Пульманоўская | 90 т.р. |
| Клаўдзія Анісава | 50 т.р. |
| Алесь Наварыч | 20 т.р. |
| Анатоль Верабей | 200 т.р. |
| Аляксандр Верабей | 200 т.р. |
| Рада ТБМ Ленінскага р-на г. Менска | 100 т.р. |
| Язэп Арцюх (Вялікабрытанія) | 5 млн.р. |
| Уладзімір Содаль | 100 т.р. |
| Суполка ТБМ "Тэлесябрына" | 3 млн.р. |
| Т.Т.В. (Гародня) | 4 млн.р. |
| Суполка №5 Свіслацкай Рады БНФ | 200 т.р. |
| Эдуард і Станіслаў Дубянецкія | 250 т.р. |
| Бацькоўскі камітэт беларускамоўных класаў | 600 т.р. |
| Аляксей Глушко | 1 млн.р. |
| Беларусы Вялікабрытаніі | 12.млн.650 т.р. |

**Койданаўская арганізацыя ТБМ**

| | | |
|---|---|---|
| Барташэвіч | В | 20 т.р. |
| Цішук | М. | 20 т.р. |
| Рабштына | У . | 20 т.р. |
| Выгоўская | В. | 20 т.р. |
| Рабштына | В. | 20 т.р. |
| Кавалеўскі | П. | 20 т.р. |
| Дуброўская | А. | 20 т.р. |
| Бандарчук | В. | 20 т.р. |
| Сідор | С. | 20 т.р. |
| Бохан | В. | 20 т.р. |
| Раманюк | Я. | 20 т.р. |
| Сантаровіч | М | 20 т.р. |
| Ваніна | Т. | 20 т.р. |
| Лой | М. | 20 т.р. |
| Юхновіч | Ю. | 20 т.р. |
| Бохан | А. | 20 т.р. |
| Давідовіч | У. | 20 т.р. |
| Рынкевіч | В | 20 т.р. |
| Бабок | В | 20 т.р. |
| Сцепулёнак | М. | 20 т.р. |
| Сцепулёнак | Г. | 20 т.р. |
| Дубатоўка | Г. | 20 т.р. |

# ПАСТАНОВА

**РЭСПУБЛІКАНСКАЙ РАДЫ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ ад 6 чэрвеня 1998 года.**

Абмеркаваўшы стан, праблемы і шляхі паляпшэння беларускамоўнага навучання ў ВНУ краіны (даклады А.Саламонава, А.Астроўскага і П.Касцюковіча), Рэспубліканская Рада адзначае, што ў апошні час прыкметнае звужэнне ўжытку роднай мовы ў дзейнасці дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь сур'ёзна адбілася і на стане беларускамоўнага навучання ў ВНУ. Тое, што дзяржаўная беларуская мова практычна амаль не гучыць ні ў парламенце, ні ў Адміністрацыі Прэзідэнта, ні ў міністэрствах і ведамствах, прыводзіць да ганебных фактаў ігнаравання яе ў многіх галінах гаспадарчага і грамадскага жыцця.

Робячы мову карэннай нацыі "непрафесійнай" і "неперспектыўнай", чыноўнікі тым самым свядома фармуюць у пэўнай часткі моладзі стаўленне да яе як да необавязковай і нават непатрэбнай.

Рада ТБМ канстатуе ўзмацненне русіфікатарскай палітыкі ў сферы вышэйшай адукацыі і пастанаўляе:

I. Звярнуцца да Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь з наступнымі прапановамі:

1) пачаць падрыхтоўку да адкрыцця Нацыянальнага універсітэта з беларускай мовай навучання;

2) не змяншаць у навучальных планах усіх ВНУ колькасць гадзін, адведзеных на выкладанне беларускай мовы (90 гадзін) і беларусазнаўства і ўзяць пад кантроль выкананне гэтага ў ВНУ;

3) у навучальных планах кожнага семестра прадугледзець выкладанне хаця б адной дысцыпліны па-беларуску, забяспечыўшы тым самым непарыўнасць выкарыстання беларускай мовы ў працэсе навучання ў ВНУ;

4) ва ўсіх ВНУ прадугледзець наяўнасць студэнцкіх плыняў з беларускай мовай навучання;

5) распрацаваць і забяспечыць выкананне дзяржаўнай праграмы "Беларускі падручнік для ВНУ";

6) увесці абавязковы ўступны экзамен у ВНУ па беларускай мове;

7) не мяняць у навучальных планах ВНУ назву курса "Гісторыя Беларусі" на "Историю Отечества", лічыць абавязковым выкладанне гэтай дысцыпліны па-беларуску;

8) справаводства ў Міністэрстве і ВНУ весці па-беларуску;

9) працягнуць вывучэнне беларускай мовы выкладчыкамі ВНУ (якія ею не валодаюць) праз сістэму ФПК з атэстацыяй;

10) улічваючы наяўнасць выпускнікоў са школ з беларускай мовай навучання, падаваць білеты на ўступных экзаменах усіх дысцыплін і па-беларуску;

11) аднавіць 10% даплаты выкладчыкам, якія выкладаюць па-беларуску;

12) разгледзець праблемы беларускамоўнага навучання у ВНУ на спецыяльнай калегіі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

II. Даручыць сакратарыяту ТБМ распрацаваць Зварот да ВНУ наконт пашырэння ўжывання беларускай мовы.

III. Узмацніць кантакты з беларускімі і міжнароднымі праваабарончымі арганізацыямі з мэтай супольнай абароны лінгвістычных правоў карэннай нацыі Беларусі.

IУ. Усім суполкам ТБМ актыўна прапагандаваць пашырэнне і развіццё беларускамоўнага навучання ў ВНУ, працягнуць збор подпісаў за адкрыццё Нацыянальнага універсітэта.

У. На наступнай Радзе ТБМ разгледзець пытанне аб выкарыстанні беларускай мовы ў дашкольных дзіцячых установах.

**Гэты нумар газеты "Наша слова" надрукаваны за кошт ахвяраванняў беларусаў Вялікабрытаніі**

27 чэрвеня

## айцу Яну Матусевічу,

духоўніку беларускай нацыі, сябру Рэспубліканскай рады ТБМ імя Францішка Скарыны спаўняецца 50 гадоў.

А 12-й гадзіне ў касцёле святых Сымона і Алены адбудзецца ўшанаванне айца Яна.

**Я** навечна ўдзячны малітвам ад Яна,
**Н**а матчынай мове з іх мовіць Тварэц,
**У** іх нашай праўды агонь палымяны,
**М**ігціць срэбнай збруяй Пагоні ганец.
**А**дчуеш жалобу і боль чужых ранаў,
**Т**угу па Радзіме, надзеі зарад,
**У** іх край радзімы, чужынцам забраны,
**С**уседам нахабным, што быццам нам брат.
**Е**рэтык ён здрадны, хлуслівы і п'яны,
**В**ы з верай сваёй яму - грозны набат,
**І** мроіць свабода з-за Вашых казанняў
**Ч**асцей, чым той нож, што падняў нейкі гад.
**У**ратуй жа Вас Бог надалей, пастаянна...
... Жыве Беларускі Абат!

*Мікола Лавіцкі, старшыня рады ТБМ Заводскага раёна*

Рэдакцыя газеты "Наша слова" ў сваю чаргу віншуе айца Яна з юбілеем і просіць яго і надалей з Богам несці беларускую веру, беларускую праўду і беларускае слова.

## У скарбонку нашай культуры.

У бібліятэцы Беларускага універсітэта культуры з 1993 года распачата выданне серыі бібліяграфічных паказальнікаў "Дзеячы навукі і культуры Беларусі", прысвечанай выдатным вучоным, якія працуюць ва Універсітэце культуры.

У гэтай серыі выйшлі наступныя бібліяграфічныя паказальнікі: Мікалай Міхайлавіч Грынчык (Мн.,1993); Анатоль Пятровіч Грыцкевіч (Мн.,1994); Юлія Міхайлаўна Чурко (Мн., 1998); Васіль Емельянавіч Лявончыкаў (Мн., 1998).

Сёлета ў гэтай серыі выйшаў чарговы, пяты бібліяграфічны паказальнік, які прысвечаны прафесару кафедры бібліятэказнаўства Лілеі Адамаўне Дзямешка. У паказальнік уключаны не толькі навуковыя працы, створаныя вучонай з 1974 па 1997 год, але і яе выбраныя вершы. Паэтычныя творы Лілеі Дзямешка прасякнутыя любоўю да маці, да роднай зямлі, да беларускай мовы.

**Цудоўнае слова**

Надзея — цудоўнае слова,
Якое існуе ў нашай мове,
Яна нараджаецца першай,
Яна ўзрастае на пожні,
Яна памірае апошняй.

Жыве ў нашых сэрцах надзея,
Што лепшымі стануць падзеі,
Што сонца засвеціць у аконца
На роднай, на мілай старонцы,
Што мудрымі зробіць людзей,
Якія не трацяць надзей.

***Л.Доўнар***




У Лідзе выйшаў чацвёрты нумар краязнаўчага, гісторыка-літаратурнага часопіса "Лідзкі летапісец". Цэнтральны матэрыял нумара "Лідчына ў паўстанні 1863 года". Аўтары: Валеры Сліўкін і Станіслаў Суднік. У артыкуле прыведзена каля 80 прозвішчаў удзельнікаў паўстання-ураджэнцаў Лідзкага павета.





# Актыўна шчыраваць дзеля роднага слова

Адным з найбольш папулярных лозунгаў сучаснасці стаў лозунг: "Беларусь - у Еўропу!" Пад гэтым лозунгам магчыма аб'яднаць не толькі нацыянальна свядомую грамадскасць, але і больш шырокія колы грамадства, якія вылучаюцца сваёй адукаванасцю, культурай. Але толькі ад вызначэння еўрапейскага шляху развіцця мы - усе былыя савецкія людзі, якія зараз маюць прэзідэнта таварыша Лукашэнку - паўнавартаснымі еўрапейцамі не станем. Для гэтага зусім не дастаткова мець дэмакратычны кірунак думак, быць сябрам апазіцыйнай арганізацыі. Неабходна перш за ўсё стваральнай працай агітаваць за еўрапейскую Беларусь, мець жыццёвую пазіцыю беларускага нацыяналіста, якая прываблівала бы сваякоў, суседзяў, знаёмых, землякоў. Нажаль, беларускае Адра-джэнне канца 80-х — пачатку 90-х гадоў зрабіла вялікую намылку, калі амаль усю святую справу нацыянальнага аднаўлення паставіла у залежнасць ад палітычнай перамогі, ад атрымання ўлады. Палітычную перамогу не атрымалі, а роднае слова стала заложнікам у палітычнай барацьбе, якую беларусы аб'ектыўна выйграць не маглі. Але ўжо прайшло амаль тры гады ад шокавага выніку рэферэндума і прыхільнікі роднага слова, калі яны сапраўдныя патрыёты Беларусі, павінны, замест таго, каб лаяць цемру, павінны кожны тыдзень ( запальваць, рабіць знічку) рэальную беларускую справу. Межы ТБМ найбольш аптымальныя ў сучасных умовах, каб быць арганізацыйна аб'яднанымі і адчуваць падтрымку аднадумцаў па стратэгічнай мэце. Ад сяброў Таварыства залежыць, якой будзе наша арганізацыя, ці пабудуем мы ў рэшце - рэшт наш агульны беларускі дом. Проста нам не трэба заўчасна крычаць : "Воўк, воўк, воўк!" , каб не паралізоўваць сваю волю да дзеянняў. Не ад шматлікіх заяў супраць знішчэння беларускіх школ, дыскрымінацыі мовы, не ад разгорнутых пастаноў аб неабходнасці зваротаў да фактычных манкрутаў будзе залежыць наша беларуская справа. Лёс Адраджэння залежыць ад эфектыўнасці крокаў дзеля роднага слова.

У 1992 годзе ТБМ абвясціла збор падручнікаў, беларускіх кніг для беларускага аддзялення філалагічнага факультэта Віленскага педінстытута. Наша рада сабрала больш сотні падручнікаў для студэнтаў і да-ставіла ў штаб кватэру. На вялікае здзіўленне, гэта было выключным крокам для раён-ных арганізацый, аб чым і напісала рэдакцыя газеты "Наша слова". Для мяне гэта стала знакам, што рэальных спраў у тэбээмаўскіх арганізацыях малавата. Але магчымасцяў для гэтага шмат, каб засеяць якасным зернем нашу ніву роднага слова. На пачатку стагоддзя Вацлаў Ластоўскі напісаў твор - казань: "Што трэба ведаць кожнаму беларусу". На прыканцы стагоддзя нам неабходна напісаць супольны твор: "Што мусіць рабіць кожны беларус", бо час прамоў мінўў і варта ўвагі толькі дзеянне дзеля Беларусі. Наш супольны твор здольны стаць праграмай рэальных крокаў да нашай мары — квітнеючай, незалежнай, заможнай, дэмакратычнай Беларусі. Няхай сябры дэмпартый прапануюць свае крокі для беларуса, а ТБМ выпрацуе свой рэальны план дзеянняў патрыётаў па вяртанню роднага слова.

Мінулай зімой, пасля непрызнанага Еўропай рэферэндуму я ўжо выказаў свае думкі аб дзеяннях першасных, раённых арганізацый Таварыства. Пасля года працы мушу сказаць, што не ўсё так жахліва, як часам асобныя адраджэнцы пужаюць саміх сябе. Лічу, што нам па сілах займацца арганізацыйным умацаваннем Таварыства і гэта жыццёва неабходна. Толькі не трэба ісці напралом, не трэба штучна ствараць суполкі і вымагаць складкі. Спачатку трэба арганізаваць справу дзеля роднага слова. Найбольш простай і цікавай формай далучэння да роднай культуры ёсць сустрэча з пісьменнікам, дзеячам культуры. За паўтара года было арганізавана больш дзеся-ці сустрэч з пісьменнікамі ў розных школах раёна. Настаўнікі, дзеці з вялікім задавальненнем слухалі апавяданні нашых літаратараў: Уладзіміра Арлова, Язэпа Янушкевіча, Вітаўта Чаропкі, бо яны ўпершыню бачылі ў сваёй школе пісьменніка, маглі задаць яму пытанне, атрымаць аўтограф. Задавальненне атрымалі і настаўнікі роднага слова, якія маглі абмяняцца з літаратарамі сваімі думкамі па важкіх праблемах жыцця нашай краіны, задаць найбольш хвалюючыя пытанні. Пасля сустрэч, што ладзіла раённая рада, значна прасцей пераконваць у неабходнасці арганізацыі прыхільнікаў роднага слова. Развіццю тэбээмаўскіх арганізацый садзеянічае і тое, што мы імкнёмся кожнаму сябру, здаўшаму складкі або ахвярананне, уручыць сяброўскае пасведчанне, засведчанае пячаткай раённай арганізацыі. Для першасных арганізацый, для яе актывістаў прадстаўляем літаратуру, што выдавалася ТБМ, а частку перадаём у школьную бібліятэку. Гэта дазваляе ўмацоўвацца арганізацыйна.

Пры шматгадовай працы ў Таварыстве прыходжу да высновы, што перш за ўсё - і гэта магчыма - нам трэба мець аднадумцаў сярод настаўнікоў роднага слова. Менавіта настаўнікі беларускай мовы і літаратуры першыя руплівцы на нашай роднай моўнай ніве. Менавіта яны прымаюць, пераважна на жаночыя плечы, увесь цяжар палітычных параз нацыянальнай апазіцыі, знаходзяцца на першым рубяжы змагання за роднае слова. Настаўнікі роднага слова на вялікую ўвагу не прэтэндуюць у сілу нашай беларускай ментальнасці, але калі б была фінансавая магчымасць, то менавіта ў межах Таварыства, магчыма разам з Міністэрствам адукацыі, арганізаваў бы конкурс : "Лепшы настаўнік роднага слова" — у раёне, вобласці, краіне. Гэта стала б добрым стымулам дзейнасці педагогаў на ніве Адраджэння. Але гэта пакуль ідэя, мара, да якой абавязкова трэба дайсці.

Для працы ў першасных суполках трэба праводзіць кансультацыі па планаванню работы, вядзенню неабходнай дакументацыі, бо гэта аснова асноў любога грамадскага аб'яднання. Планы арганізацый маюць у аснове выкананне патрабаванняў школьнай праграмы да пазаўрочнай працы па роднаму слову. Прапаганда беларускіх перыядычных выданняў і набыццё падпіскі на іх за кошт сяброўскіх складак - неабходны элемент дзейнасці першасных суполак. Праца фальклорна-этнаграфічных гурткоў, гурткоў чытачоў роднага слова, выпуск насценных газет аб дзеячах беларускай культуры, допісы ў дзіцячыя газеты часопісы: "Раніца", "Вясёлка", "Бярозка", літаратурна краязнаўчыя чытанні, удзел у літаратурна-мастацкім конкурсе : "НАШ ДОМ У XXI СТАГОДДЗІ", правядзенне агляду беларускай песні "З песняй жыве народ" — гэта няпоўны пералік спраў у якіх імкнуцца прымаць удзел нашы першасныя суполкі, якіх магчыма прытрымліваціа ў кожным рэгіёне.

На сёняшні час у значнай меры не акрэслена дзейнасць абласных структур ТБМ, яны яшчэ недастаткова далучыліся да стваральнай справы. Безумоўна, адсутнасць сродкаў замінае паўнацэннай дзейнасці абласных рад, але павышэнне іх эфектыўнасці магчыма. Першым кірункам актывізацыі бачыцца супрацоўніцтва з абласнымі інстытутамі перападрыхтоўкі настаўнікаў, з іх кабінетамі роднага слова. Таварыства здольнае для кожнай плыні настаўнікаў беларускай мовы арганізаваць сустрэчу з пісьменнікамі абласнога цэнтра, прапанаваць выданні, якія не даходзяць да мястэчкаў, апавядаць аб дзейнасці нашай арганізацыі. Усталяванне кантактаў на перападрыхтоўцы, можа стаць першым крокам для стварэння першасных арганізацый ў рэгіёнах, дзе іх яшчэ няма. Другім кірункам дзейнасці, як абласных, так і гарадскіх у абласных цэнтрах арганізацый павінна стаць праца: актыўная і сістэматычная па пашырэнню структур ТБМ і іх актыўнай дзейнасці ва універсітэтах, ВНУ. У былых педагагічных інстытутах лёсам наканавана мець моцныя арганізацыі Таварыства. Неабходна пераадолець практыку, калі ў гарадскіх радах Таварыства прадстаўлены выкладчыкі універсітэтаў, інстытутаў, а ва ўстановах першасныя суполкі амаль не дзейнічаюць. Жыццёвая пазіцыя беларуса павінна грунтавацца на імкненні і ўменні згуртаваць вакол сябе аднадумцаў, перадаць гэта ўменне моладзі. Лёс Таварыства, лёс Адраджэння ў значнай меры залежыць ад таго, як мы замацуемся ва універсітэтах, інстытутах, тэхнікумах, як актыўна будзем працаваць дзеля Бацькаўшчыны.

І напрыканцы. Хопіць крытыкаваць Міністэрства адукацыі, калі мы жадаем з установамі адукацыі працаваць дзеля нашай Беларусі. Не трэба рабіць Міністэрства крайнім у нашай палітычнай паразе, да якой прывяла нерэалістычная палітыка апазіцыі пачатку 90-х гадоў. Замест крытыкі лепш мець пагадненне з заснавальнікамі ТБМ аб супрацоўніцтве дзеля пашырэння роднага слова ў краіне, дзеля выжывання беларускай культуры. Гэта будзе канструктыўна, будзе працаваць на будучыню, створыць прадумовы для стваральнай працы.

*Леанід Гаравы.*

Леанід Лыч

# Абеліскам услаўім беларускую мову.

*(Заканчэнне. Пачатак у N 24)*

У гэтай краіне неспрыяльнай сітуацыі беларускай мове давялося адступіць. Зараз у яе больш хісткія пазіцыі, чым да гарбачоўскай перабудовы. Але цалкам у нябыт беларускае слова не адышло, захоўвае здольнасць да ўсё той жа рэгенстрацыі. Для гэтага яму патрэбна толькі адпаведная палітычная сітуацыя ў краіне. Таму было б вялікай памылкай думаць, што стэлай, прысвечанай беларускай мове, мы паказваем яе як ужо мёртвую а не жывую, г.зн. зажыва хаваем у зямлю. Наадварот, прызначэнне стэлы, пра якую тут вядзецца гаворка, падкрэсліць неўміручасць беларускай мовы ў мінулым і здольнасць адрадзіцца, стаць па-сапраўднаму, фактычна дзяржаўнай сёння, у што павінны ўсе мы верыць і за што павінны змагацца. Мемарыяльнае ушанаванне беларускай мовы, несумненна, будзе садзейнічаць росту яе папулярнасці, абуджаць у народа ўпэўненасць у яе адраджэнне, клікаць да адпаведных стваральных дзеянняў.

Зусім неабавязкова дзеля сродку мемарыяльнага ўшанавання беларускай мовы выбіраць толькі стэлу, статую і г.д. Яна заслугоўвае значна большай увагі за тую ролю, якую ўжо адыграла і яшчэ адыграе ў нашым жыцці. Таму побач са стэлай ці статуяй мэтазгодна было б узвесці ў нацыянальным стыле найцудоўнейшы Храм, Святыню беларускай мовы. Яго знешняму абліччу пажадана надаць выгляд разгорнутай кнігі з адпаведным тэкстам, каб той, хто азнаёміцца з ім, абавязкова пажадаў бы зазірнуць унутр будынка. Тут наведвальніка павінны чакаць прыгожа афармленыя залы з багатымі і змястоўнымі тэкставымі матэрыяламі, у якіх можна было б знайсці вычарпальныя адказы на ўсе пытанні з гісторыі беларускага слова. А яна надзвычай і багатая, і гераічная. Каб наш народ дасканала ведаў ўсё гэта здэнацыяналізаваныя пласты яго вельмі хутка развіталіся б з заскарузлым нігілізмам, да сваёй роднай мовы. Належным чынам аформлены музей беларускай мовы, адпаведныя яго мэтам мерапрыемствы, што тут будуць ладзіцца, несумненна, маглі б паспрыяць набыццю такіх ведаў. Не выключна, што многія хворыя на моўны нігілізм беларусы, прайшоўшы праз залы Святыні беларускай мовы, вярталіся б дамоў зусім іншымі людзьмі, прасякнутымі шчырым жаданнем як мага хутчэй стаць актыўным носьбітам свайго забытага прыроднага слова. А якія цікавыя мерапрыемства мог бы надзіць Мемарыяльны дом беларускай мовы ў час правядзення Дня славянскага пісьменства і культуры ! Гэты дом, напэўна, стаў бы месцам паломніцтва замежных турыстаў, якія так цікавяцца беларускай сталіцай. Яго б не абышла б аніводная турыстычная група з славянскіх краін, народы якіх усё больш і больш непакоіць этнакультурнае выміранне аднаго з самых арыгінальных складнікаў славянскай супольнасці — беларусаў. Як і многія з нас, братыславяне галоўную прычыну беларускай трагедыі справядліва бачаць у выключэнні беларускага слова практычна з усіх сфераў грамадскага жыцця краіны.

Пры вырашэнні пытання аб ўстаноўцы Стэлы і збудаванні Музея беларускай мовы ў абавязковым парадку ўсплывае на паверхню геаграфічны фактар: у якім месцы горада размясціць гэтыя святыні ? Зразумела, у самым людным і прэстыжным. Канкрэтны адказ на гэтае пытанне пакідаю за кампетэнтнымі гарадскімі органамі ўлады. Другое сур'ёзнае пытанне: дзе ўзяць фінансавыя сродкі на ўвасабленне ў жыццё гэтай агульнанароднай ідэі ? Дзяржава ў баку не можа заставацца, бо стварэнне належных умоў для захавання і роскві̇ту роднага слова тытуальнага народа — яе наўпростае, святы абавязак. Такі ж абавязак і ў самаго народа, нягледзячы на яго сучаснае гаротнае матэрыяльнае становішча. Праўда, у нас ужо з'явіліся людзі багатыя, можа сярод іх знойдуцца сапраўдныя мэцэнаты беларускай нацыянальнай культуры і мовы. Няўжо ж ніхто не захоча, каб яго імя насіў Музей беларускай мовы ? Нешта ж падобнае было ў нашай гісторыі, да прыкладу, стварэнне ў 1855 годзе на ўласныя сродкі братоў Тышкевічаў — Канстанціна і Яўстафія Віленскага музей старажытнасцяў. Безнадзейна хворы на сухоты Іван Луцкевіч (1881-1919) больш думаў са сваім братам Антонам пра стварэнне Беларускага музея ў Вільні, чым пра ўласнае здароўе. І ён быў заснаваны, але толькі пасля смерці таго, хто прысвяціў гэтай высокароднай справе ўсё сваё жыццё. Удзячныя ішчырыя сябры Івана Луцкевіча надалі яго імя Віленскаму беларускаму гісторыка-этнаграфічнаму музею, які на працягу 1921-1945 гадоў з вялікай карысцю працаваў на наш нацыянальны інтарэс. Імя аднаго з апосталаў нацыянальнага Адраджэння пачатку XX стагоддзя Івана Луцкевіча залатымі літарамі ўнесена ў летапіс айчыннай гісторыі. Гэтак жа паважліва паставіцца яна і да таго, на чые сродкі на пачатку ўжо новага, XXI стагоддзя будзе ўзведзены Музей беларускай мовы. Не спадзяючыся на фінансавыя магчымасці толькі аднаго чалавека неабходна ў аддзяленнях Дзяржбанка Рэспублікі Беларусь адкрыць спецыяльны рахунак ( пра гэта чытачам паведамім пазней) для добраахвотных узносаў ўстаноў і арганізацый, самога насельніцтва на гэтыя мэты. Хто ўнясе найбольшыя сумы, павінен атрымаць права быць адзначаным у спецыяльнай кнізе Музея. Нягледзячы на свядомае звужэнне афіцыйнымі ўладамі сацыяльнага арэалу ўжывання беларускай мовы, шчырых прыхільнікаў у яе і на сёння нямала. Ім толькі дазволь, дык яны без выкарыстання ўсялякай тэхнікі, толькі аднымі прыгоршчамі за тыдзень насыплюць у гонар роднай новы курган вышэй за той, што знаходзіцца на 21-м км шашы Мінск — Масква і славіць рерамогу воінаў 1, 2, 3-га Беларускага і 1 Прыбалтыйскага фронту ў Беларускай аперацыі 1944 года. Знойдуцца ў нас калектывы, прыватныя асобы, якія гатовыя будуць паставіць для Музея розныя віды абсталявання, механізмаў, матэрыялаў.

Устанаўленне Стэлы і пабудова Музея беларускай мовы ў горадзе Менску ні ў якім разе не павінны разглядацца як толькі яго манапольнае права на ўсім абсягу нашай краіны. Кожны яе населены пункт мае права ў тай ці іншай форме матэралізаванасць сваю любоў і пашану да роднага слова з улікам мясцовых моўных асаблівасцяў у мінулым і на сучасным этапе. Гэта прынясе толькі карысць, надаць клопатам аб трагічным лёсе беларускай мовы агульнанародны характар.

На сёння яшчэ канчаткова не сфармаваны Арганізацыйны камітэт па стварэнні мемарыяльнага Комплексу ў гонар беларускай мовы, таму ласкава прсім паважаных чытачоў выслаць на адрас рэдакцыі газеты "Звязда", а таксама на адрас старшыні клуба "Спадчына" Анатоля Белага (п.і. 220037, г.Менск, вул.Уральская, д.16,кв.9; т. 235-66-08) свае меркаванні адносна таго, у якім месцы беларукай сталіцы найлепш за ўсё было б пабудаваць такі Комплекс, якія тэксты і адметныя (станоўчыя і адмоўныя) з'явы вы хацелі б бачыць на знадворных баках Стэлы. Будучаму Аргкамітэту было б цікава ведаць і іншыя вашы меркаванні датычна ўганаровання нашага роднага слова, да актыўнага змагання за выжыванне яго павінны далучацца ўсе, каму дарагія нацыянальныя ідэалы беларускага народа.

# Творчасць маладых беларусаў

Сачыненні, дасланыя на конкурс "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай..."

## Жывая вада.

Ты, адзін з сыноў Белай Русі, дзе знайсці ваду жывую, гаючую, ведаеш? Не? Тады слухай і запамінай.

Вазьмі першы крык немаўляці і змяшай яго з ціхай матчынай калыханкай, дадай да іх шчабятанне жаўранка над полем і пошчак салаўя ў зарасніку алешыны. Улі туды ж журчанне лясной крынічкі, змяшанае з шумам Нёману і палескай Прыпяці. Туды ж пакладзі голас баравіка, што прабіваецца на волю і шэмет падаючага лісця. Дадай грукат грому і шабельны звон бітвы на Нямізе і Грундвальскай перамогі. Змяшай усё гэта з подыхам мінулых вякоў і накрый ласкаю бабуліных казак. Настайвай жывую ваду на купальскіх зёлках на самым высокім кургане на працягу гісторыі.

І беражы, бо гэта-найдаражэйшы скарб твой. Але не хавай гэты скарб. Пі ваду жывую кожны дзень і кожную хвіліну і давай піць кожнаму, хто папросіць. І напаі таксама і кожнага, хто яшчэ не ведае пра яе. Дзяліся жывой вадой з кожным, бо не паменее яе ад гэтага. Бо паіла яна людзей стагоддзі і толькі чысцейшай ставала. Таму што вада гэта сапраўды жывая, яна-душа народу твайго — мова беларуская. Святая і вечная, кволая і магутная, бессмяротная мова беларуская народу. Не бойся піць з яе: яна дасць табе мудрасць Усяслава Чарадзея і адвагу князя Вітаўта.

Але гора табе, калі забудзешся пра ваду жывую, адрачэшся ад яе ці выльеш і кінеш на паглумленне. Гора тады табе, беларус, унук Белабога. Бо загіне, прападзе бясслаўна ўвесь род твой. І асудзяць цябе і пошчак салаўя і першы крык немаўляці. Праклянуць цябе і песня матчына, і шум Нёмана. А на самым вышэйшым і справядлівым судзе-Судзе Гісторыі адрачэцца ад цябе нашчадак і пракляне страшным праклёнам цябе прашчур. І прагучыць той праклён у кожным удары летняй бліскавіцы ...

*Эма Дзюрыч*
*вучаніца 11 класа,*
*в.Асіповічы, Драгічынскага раёна.*

## Мова — гэта таінства.

Няма ў Сусвеце простых рэчаў. Навокал усё звязана нябачнымі ніцямі. Але калі яны разрываюцца, то парушаецца гармонія. Гэты закон дзейнічае і на чалавека. Кожны з нас мае свае асаблівасці, але адзін імкнецца да аднаго, і ствараюцца супольнасці людзей. Чым жа мы злучаемся з суседзямі, сябрамі, землякамі, настаўнікамі Мабыць Вы ніколі не задумваліся над гэтым?

На мой погляд, існуе некалькі такіх сувязяў: менталітэт, свапеасаблівая культура, рэлігія і ... мова. Як бачым мова з'яўляецца важным звяном. Але слова "звяно" невыразнае, яно не змяшчае ў сябе паэзію і філасофію. Існуе яшчэ адно дзіўнае, непаўторнае слова таінства. А ці ведаеце Вы, што сабой уяўляе беларуская мова-таінства? Каб спазнаць гэта не трэба чытаць шмат навуковых кніг. Апынуўшыся ў вёсцы, можна спазнаць усю прыгажосць гэтага таінства. Там, дзе гаворка аднавяскоўцаў супадае з заходам і ўсходам сонца, дзе залатыя ліпы шумяць над хатамі, дзе нашы дзяды расказваюць паданні, дзе на старым замчышчы шумяць вятры, можна пачуць мову нашых продкаў.

І ведаеце, як становіцца хораша ад самога ўяўлення таго, што ты беларус, што гэта твая зямля, што тут гучыць родная гаворка, што продкі абаранялі нашу Радзіму з мячом у руках ад ворагаў.

Напэўна, не ведалі яны, што праз стагоддзі мужныя беларусы атрымаюць страшэннае паражэнне. Не! Гэта не смерці тысячаў, не Чарнобыль, ёсць яшчэ адно, не менш страшэннае — страта мовы і культуры.

Спадзяюся, што гэта мы не згубілі сваё роднае, што праз гадоў дзесяць, калі не болей, і вы пачуеце мову Янкі Купалы і Якуба Коласа, як у вёсцы, так і ў горадзе. А вынік залежыць ад Вас, шаноўныя чытачы! Веру, што як і ў царкве чалавек прымае таінства, так і ў жыцці ён прымае мову беларускую. І тады гармонія ўсталюецца ў нашым доме.

*Аляксандр Глускі, вучань 11 кл.*
*г.Маладзечна, Мінская вобл.*

## А як нам мову зберагчы?

Як цяжка словы падабраць,
Што на душы сабраліся,
Пра мову родную маю,
Пра ўсё, што падабаецца.

Без мовы людзям не пражыць —
Мы без яе - не нацыя.
А як нам мову зберагчы?
У тым патрэбна рацыя.

Мы мову будзем шанаваць,
Каб у спадчыну засталася,
Каб дзеці нашы праз вякі,
На нас не крыўдаваліся.

*Кірава Алеся, вучаніца 11 класа*
*Смалянскай сярэдняй школы*
*Аршанскі раён, Віцебская вобласць*

## Люблю

Люблю я сваю Беларусь —
Краіну лясоў і азёраў.
Я вам на стагоддзі клянуся
Любіць Беларусі прасторы.

Люблю я чыстае неба,
І маці блакітныя вочы
Скарыначку смачнага хлеба
Таемныя, ясныя ночы.

Яе прыгажосць на світанку
На росных палях і на лузе
Найлепшага падарунку
У свеце цэлым не будзе.

Хачу, каб і вы палюбілі
Краіну святую маю.
Каб ёю, як след даражылі,
Як ёю і я даражу.

*Уладзімір Ягоўдзік,*
*СШ N169,г. Менск*

## Беларусі

Мая Беларусь сінявокая,
Як люблю я цябе!
Твае азёры глыбокія
Заўсёды вабяць мяне.

Празрыстыя, як люстэрка,
Як вочы тваіх дзяцей.
Аддаў бы сваё я сэрца
Не змог пакахаць бы глыбей.

Няма прыгажэйшых у свеце
Ні рэк, ні лясоў, ні дуброў.
І матчына мова, паверце, —
Найлепшая сярод моў.

Хачу, каб квітнела краіна
І мова мая жыла,
А большага немагчыма
Жадаць, чым жадаю я.

Не прагну замежных багаццяў,
Я жыў бы заўсёды тут,
Мая пяшчотная маці,
Мая Беларусь — вольны кут.

*Яўген Пархоменка,*
*6"Б" клас,СШ N169 г. Менск*

## МОВА — ШЛЯХ, МОВА — ХЛЕБ, МОВА — КРОЎ . . .

Мне чужога нічога не трэба!
Мне чужыя не трэба краі.
Я не прагну чужынскага неба.
У мяне ёсць палі і гаі.

Мілагучная, родная мова!
Як цябе не любіць, не кахаць?
Што мацней, што гучней тваяго слова,
Мая гордая, смелая мова?
Што цяжэй за цябе аддаваць?

Найлягчэй проста кінуць, забыцца,
Харкнуць, потым нагой растаптаць.
Найлягчэй абсмяяць, паглуміцца,
Заткнуць вушы: "А мне наплевать".

Найцяжэй не пакінуць нявол́і,
Не забыць, не адмовіць, не збыць,
Найцяжэй не шукаць лепшай долі,
Да апошняй хвіліны служыць.

* * *

Паўпамерлая родная мова!
Паўзагінуўшы родны народ!
Паўпакінута роднае слова,
Не забыты затое гарод!

Мова, слова, нашто яны трэба?
Ці ж над імі заплакаць душой,
Ці ахвяру прыносіць сабой,
Ці любіць, ці пакутаваць нема,

Калі чарачка ёсць з каўбасой,
Да каўбас многа свежага сала,
Яек вараных, булак сваіх?
Што, табе ўжо і гэтага мала
І ты жыць марыш лепш за другіх? ..

Захацеў, бачыш, родную мову —
Дык сканала даўно ўжо яна.
Захацеў слухаць роднае слова —
Дык між ім і табою — сцяна ...

Хай гісторыя робіць сваё.
Не марнуйся, не гні сваю спіну —
За цябе яна зробіць усё,
Матчын спеў пакладзе ў дамавіну . . .

Той мярцвяк, хто без мовы жыве.
Мова — шлях, мова — хлеб,
мова — кроў.
Мова ў сэрцы і ў галаве,
Калі ты — не адзін з мерцвякоў . . .

* * *

Беларус прабудзіся, прачніся,
Калі можаш прачнуцца яшчэ!
Беларус, ачуняй, абудзіся,
Калі кроў яшчэ ў жылах цячэ!

Мова родная — лепшая з моў.
Ты ніколі яе не адмоў.
Беларус, хай гучыць зноў і зноў:
Мова — шлях, мова — хлеб,
мова — кроў! . .

*Мікола Хіла*
*вучань 8 -г класа*
*СШ № 213 г. Менска.*

## Світальная зорка

Світальная зорка над лесам ўзыходзіць
І хутка прагоніць тут цемру і цень.
Ты ведаеш сам — наша ноч на заходзе,
Належыць не нам надыходзячы дзень.
Ты ведаеш сам — нашай песні не будзе.
Нот колькі падхопіць салоўка ў бары,
І імі чыёсьці каханне абудзіць,
І хтосьці за нас прастаіць да зары.
Ты хутка ўжо знікнеш у шэрым тумане
І толькі гарачыя знічкі вачэй
Мне мроіцца будуць у росах світальных
І ў зорках далёкіх бяссонных начэй.

*Алена Майсевіч,*
*Лідскае педвучылішча*

## Чаго вам хочацца, панове?

Чаго вам хочацца панове?
Нт веру я сваім вушам
Ці ж нашы пушчы і дубровы
Не падабаюцца ўсім вам?
Ці ў нашай роднай Беларусі
Няма ніякай прыгажосці?
Чаго згінаецеся ў срусе.
Вы ж на сваёй зямлі, як госці.
Ці ж ваша сэрца ачарствела,
Ці нешта дрэннае з вачамі?
Зірніце ж, мусіць, у свеце цэлым
Зямлі такой не сустракалі.
Палі жаўцеюць збажынаю,
Азёры рыбаю блішчаць.
Лугі з мурожнаю травою,
Дубравы лісцем шапацяць.
А ноччу зоркі ў цёмным небе
На нас прыгожыя глядзяць
І з срэбным месяцам - суседам.
Яны няспынна гаманяць.
Гэй вы, шаноўныя панове,
Вы ж смакавалі хлеб пшанічны,
А пасля працы вы на полі
Ці ж не пілі вады крынічнай?
Пілі, вядома. Дык чаму ж вам
Так Беларусь не дагадзіла,
Ці ж бульбы, жыта гэтым годам
Зямля матуля не ўрадзіла?
Ды не. Ёсць хлеб, ёсць бульба, жыта,
А вам чагосьці не хапае.
Усе беларусы працавіты,
А Беларусь — зямля жывая.
Чаго ж вы хочаце панове?
Вы ж на сваёй зямлі, як госці,
Адрокшыся ад роднай мовы,
Вы страцілі святое штосьці.
І хай вы знойдзеце багацце,
Жыццё не будзе ваша добрым,
Бо без Радзімы нават шчасце
Здавацца будзе шчасцем дробным.

*Вольга Белаўсевіч,*
*9"Б" клас, г. Менск*

* * *

Плачуць вокны дажджынкамі з самага ранку,
Плачуць вочы твае ў маркотнай журбе,
Родны дом, мы вандруем цяпер без
прыстанку.
Родны ветразь прыгорне мяне і цябе.

Зразумець я зусім не спрабую чужыну,
Паварочвае сэрца дадому ізноў,
Я люблю, я аддана кахаю Айчыну,
І яна — гэта сэнс маіх думак і сноў.

На чужыне і рай здасца цемразным пеклам,
На чужыне — не тое, і сэрца з высоны
Захлынаецца, вочы ад болю паблеклі,
Як складана стагоддзі не чуць родных слоў.

Як маркотна, і дождж падзяляе маркоту,
Бо ён быў шмат раз на Радзіме маёй.
Плачуць вокны дажджынкамі. Сум і турботы
Крочаць з восенню, я ж размаўляю з вясной ...

*Вольга Базылёва,*
*10 "А" клас гімназіі N1, г. Менск*

Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік:
ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі:
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў:
231300, г. Ліда-2, п/с 7.

Рэдакцыйная рада:
Генадзь Бураўкін — старшыня,
Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі,
Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля,
Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко,
Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 22. 06. 98 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 1598.
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.